# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

**пэдагагічны штомесячнік.**

№ 5 (3). | Рыга, сакавік 1927 году. | Год II.



## Памёр першы Прэзыдэнт Латвіі, Я. Чакстэ.

У панядзелак, 14 сакавіка, у 20 гадз. 45 хвілін памёр першы Прэзыдэтн Латвійскай Рэспублікі Я. Чакстэ.

Нябошчык арадзіўся 14 верасеня 1859 году, скончыў Мітаўскую гімназію, а затым у 1887 годзе, юрыдычны факультэт Масkоўскага Унівэрсытэту.

Ужо ў гімназіі і ў унівэрсытэце Я. Чакстэ прыймаў чынны ўдзел у латыскім нацыянальна - адраджэнчым руху, а пасьля сканчэньня унівэрсытэту аддае ён усё сваё жыцьцё нацыянальнай працы.



Першы Прэзыдэнт Латвіі
Я. ЧАКСТЭ.

Цэлы шраг выбарчых пасад, пачынаючы са старшыні Мітаўскага латыскага Т-ва якім ён быў выбраны ў 90-х гадох мінулага стагодзьдзя, займае Я. Чакстэ за 40 гадоў сваёй грамадзкай працы. Калі-ж Латвія робіцца незалежнай Рэспублікай, Я. Чакстэ займае становішча яе нязменнага главы, спачатку ў ролі старшыні Народнае Рады Латвіі, а затым, як Прэзыдэнт Рэспублікі.

Яўляючыся прадстаўніком буржуазнае часткі латвійскага грамадзянства і будучы па асабістым перакананьнем вострым ворагам сацыялістаў, Я. Чакстэ, аднак, займаючы кіраўнічую пасаду ў Рэспубліцы трымаўся вельмі дастойна і не мяшаўся ў барацьбу партыяў, справядліва разумеючы сваю ролю, як рэпрэзэнтанта, —вярхоўнага павадыра і вартаўніка канстыцыі Латвійскае Рэспублікі.

Сьмерць гэтага выдатнага чалавека і дзеяча выклікала ў Латвіі шчыры жаль усяго жыхарства Рэспублікі.

## Спачувальныя тэлеграмы беларусаў.

З поваду сьмерці Першага Прэзыдэтнта Латвійскае Рэспублікі, ад імя „Т-ва беларусаў-выбаршчыкаў у Латвіі“ Латвійскаму Ураду, а таксама і жонцы нябожчыка, гр-цы Чакстэ, Цэнтральным Праўленьнем Т-ва пасланы тэлеграмы спачуваньня.

Гэткія-ж тэлеграмы спачуваньня былі пасланы ў ноч з 14-га на 15-е сакавіка і ад імя „Т-ва беларускіх вучыцялёў.

## Акт на Беларускіх Настаўніцкіх Курсах.

Увечары 16 сакавіка, пасьля 4-е лекцыі, на беларускіх дзяржаўных настаўніцкіх курсах у Рызе заняткі былі перарваны і настаўнікі і слухачы сабраліся, каб ушанаваць памяць памёршага Першага Прэзыдэнта Латвійскае Рэспублікі, гр. Я. Чакстэ.

Кіраўнік курсаў М. Дзямідаў, паведаміўшы аб сьмерці Прэзыдэнта, прапанаваў прысутным ушанаваць памяць яго ўставаньнем. Затым лектар мэтодыкі гісторыі на курсах, гр. К. Езавітаў, сказаў прамову, у якой абмаляваў Я. Чакстэ, як гістарычную асобу, асабістыя данныя, тактыка і характар якой былі настолькі пазытыўнымі, што далі магчымасьць нябошчыку заўсёды карыстацца агульнаю пашанаю і займаць шэраг адпаведных пасадаў і становішчаў у жыцьцю латыскага народу.

Урачысты акт быў скончаны пяяньнем Латвійскага Дзяржаўнага гімну.

## Урачыстасьці у Дзьвінскай гімназіі з поваду сьмерці Прэзыдэнта.

Вестка аб сьмерці пэршага прэзыдэнта Латвіі Я. Чакстэ сумна адбілася ў сэрдцах Дзьвінскіх беларусаў.

17 сакавіка ў памешканьні беларускае гімназіі была па нябошчыке адслухана законавучыцялем а. С. Трубіцыным паніхіда, на якой быў прысутным кіраўнік Беларускага Аддзелу, У. В. Пігулеўскі, пэдагагічная карпарацыя і вучні. Цёплыя прамовы аб Я. Чакстэ сказалі У. В. Пігулеўскі і айц. С. Трубіцын. Партрэт Я. Чакстэ быў прыгожа задрапіраваны і пастаўлены на асобным узвышшы з траурнымі лентамі, нацыянальнымі сьцягамі і кветкамі.

У дзень хаўтураў, 18 сакавіка аб 11 гадзіне зраньня адбыўся у гімназіі урачысты траурны акт. Дырэктар гімназіі С. П. Сахараў зрабіў падрабязны даклад аб жыцьцю і дзейнасьці Прэзыдэнта Я. Чакстэ і адзначыў яго прыхільнасьць да беларускай справы. Памяць Я. Чакстэ была ўшанавана ўставаньнем, прычым вучнёўскі хор прасьпяваў „Вечная памяць“.

## Стыпэндзіі імя Я. Чакстэ.

Ушанаваўшы памяць Я. Чакстэ пасылкаю тэлеграмаў і ўрачыстымі актамі, беларусы ў Латвіі адмовіліся ад традыцыйнага звычаю узлажэньня вянка на магілу і знайшлі больш адпаведным для гонару нябошчыка паруліцца аб стварэньні стыпэндзіяў імя Я. Чакстэ пры вышэйшых школах Латвіі для беларускае моладзі.

У справядлівасьці гэткай сваей думкі беларусы пераканаліся тым больш, што—ў зьвязку з вялікімі патрэбаваньнямі і заказамі на вянкі і кветкі—мяйсцовыя гандляры не пасароміліся спэкульнуць, нават, на сьмерці першага -Прэзыдэнта Латвіі і шалёна паднялі цэны і на вянкі і на кветкі.

Па газэтным весткам у Рызе адных жывых кветак было прададзена болей як на 3.000.000 рублеў.

## Сход Рады Беларускага Аддзелу.

5 сакавіка 1927 году адбыўся сход Рады Беларускага Аддзелу. На сход прыслалі сваіх прадстаўнікоў беларускія культурна-прасьветныя арганізацыі і вучыцельства. Ад Беларускага Вучыцельскага Хаўрусу быў прадстаўніком гр. К. Езавітаў, ад беларускага вучыцельства места Люцына і яго павету гр. С. Маціеўскі, ад беларускіх культурна-прасьветных Таварystваў „Рунь“ гр. Н. Пінская, „Беларуская Хата“ гр. М. Дзямідаў і „Прасьветы“ гр. П. Жэрдзі. Кіраваў сходам кіраўнік Беларускага Аддзелу гр. У. Пігулеўскі.

Рада заслухала справаздачу кіраўніка Аддзелу ў ягонай працы, а таксама і плян рэформы беларускае пачатковае школы ў сэнсе прыданьня ёй больш жыцьцёвага характару навучаньня. Рада плян зазначанае рэформы ўхваліла, пры чым даручыла кіраўніку распрацаваць яшчэ і плян пазашкольнае адукацыі.

Заслухаўшы даклад аб падзелу буджэту на 1927-28 гаспадарчы год, які ў згоднасьці з працэнтным адношаньнем быў дадаткова зьменяны, Рада прыняла прынцыповыя пастановы аб прызначэньню некаторых буджэтных асыгнаваньняў, як напр. суму, прадугледжаную на экскурсыі, вырашана адпусьціць беларускім школам, якія пажадаюць адведаць Дзьвінскую Дзяржаўную беларускую гімназію ў дзень урачыстага сьвяткаваньня яе пяцігодзьдзя 29 траўня г. г. Грошы прадугледжаныя на дапамогу беларускім таварыстам, прызначана даць Т-ву „Беларускага тэатру ў Латвіі“ на першы пачатак яго дзейнасьці. Гэтае-ж Т-ва пастаноўлена вызнаць адзінай тэатральнай арганізацыяй беларускае меншасьці ў Латвіі, маючай права на урадавую і самаўрадавую падтрымкі, як гэта прадугледжана правіламі аб нацыянальных меншасьцёвых тэатрах.

Між іншым, у шэрагу рожных школьных і грамадзкіх пытаньняў, былі вынесены дзьве пастановы, якія будуць мець вялікае значаньне для далейшага будаўніцтва нашага беларускага грамадзкага жыцьця.

Першая з іх—гэта пастанова аб утварэньні Фонду Стыпэндзіі пры Радзе Беларускага Аддзелу на падтрымку нашае незаможнае моладзі, пераважна студэнтаў, якія вучуцца ў вышэйшых школах Латвіі, а таксама і на іншыя грамадзкія патрэбы.

Другая прынцыповая пастанова—пажаданьне Рады Аддзелу, каб, памагчымасьці, вучыцельства, пераважна ў мястовых школах, не брала на сябе выкладаньня вялікшага за ўстаноўленую норму ліку лекцый, чым прадгледжана ў законе. Рэшту школьных гадзін трэба пераўступаць безпрацоўнаму беларускаму настаўніцтву.

Гэтыя пастановы можна толькі вітаць і пажадаць, каб беларускае грамадзянства адгукнулася на іх і дапамагла справе іх здзейсьненьня, бо, запраўды, даўно ўжо прыйшоў час падумаць аб тых, хто прыйдзе на зьмену цяперашнім змагарам, даўно ўжо прыйшоў час паклапаціцца аб нашай моладзі — нашай будучыне. **Н. Пінская.**

## Статут „Таварыства беларускіх вучыцялеу у Латвіі“.

Беларускае Выдавецтва выпусьціла асобнай кніжачкай „Статут Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“. У кніжачцы, апрача самога статуту, зьмешчана яшчэ прадмова К. Езавітава. Каштуе гэтае выданьне, патрэбнае кождаму настаўніку, вельмі танна: усяго 30 сантымаў, а з перасылкаю на хату — 40 сантымаў (або 20 рублёў). Жадаючыя атрымаць статут павінны зьвяртацца ў Беларускае Выдавецтва.

# З Беларускага Культурнага Жыцьця.



3-ці акт п‘есы „На Купальле“, напісанай таланавітым беларускім паэтай і пачынаючым драматургам Міхасём Чаротам. Пастаноўка Менскага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, пад рэжысурай Міровіча.



3-ці акт п‘есы „Жрэц Тарквіні“ у пастаноўцы Менскага Беларускага Дзяржаўнага тэатру, пад рэжысурай Міровіча.

## Хай жыве Беларускі Нацыянальны Тэатр!

# МЭТОДОЛЁГІЯ і ПРАКТЫКА.

## Выразнае пісаньне.

Пытаньне аб выразным пісаньні здаецца нам дробным, калі мы гаворым аб праграмах, аб мэтадах працы наогул. На справе-ж, у школьнай практыцы, тэхніка пісаньня, навучаньне выразнаму, чыстаму і прыгожаму для вока пісаньню займае значнае месца.

Колькі часу траціцца ў школе на пісаньне, а як пішуць? Адзін страх. І глядзець брыдка і чытаць цяжка.

### I. Ці псуюць рыскі паперу?

Дзе-каго так данялі „косыя лінейкі", што яны прапануюць сагнаць з твару паперы ўсялякія рыскі: і косыя і простыя і нават „у дарожку", „На чыстай белай паперы, без усякага ўціску, вольна і без натугі піша вучань роўна, кіруючыся агульным напрамкам— краямі самое паперы", — кажуць гэты павадары у сваіх артыкулах.

Але разгледзім, дзеля чаго робяцца рыскі ў сшытках і, наагул, на паперы для пісаньня. Рыскі так званыя **„ў адну лінейку"**, робяцца да таго, каб даць просты напрамак радком пры пісаньні і каб гэтыя радкі былі на аднолькавай адлегласьці адзін ад другога·

Ці патрэбны яны? Вучню наогул і асабліва таму, якія толькі пачынае пісаць, будзе страшэнна труднапісаць роўнымі радкамі бяз рысак. Адзін радок у яго палезе ўверх, другі ўніз і г. д. Гэта ўжо будзе шкодзіць прыгожасьці. Гэта адчуваюць наватары і прапануюць пры пісаньні замест такіх рысак кіравацца краямі самое паперы.

Я ня хочу сказаць, што бяз рыскі ня можна напісаць простага радка, але для гэтага трэба мець добры вокамер (якога няма ў пачынаючага вучня) і наогул звычку. Можна і пачынаючага вучня навучыць пісаць простыя радкі бяз рысак, як гэта робяць у некаторых дзіцячых садох альбо падгатоўчых групах, але на гэта трэба патраціць шмат часу і мець на настаўніка адну групку чалавек з 15-20.

Далей, рыска, якая вызначае толькі напрамак радка і адлегласьць аднаго радка ад другога, зусім не перашкаджае вучню пісаць простымі радкамі і ў аднолькавай адлегласьці адзін ад другога (а гэту якасьць можна лічыць першай, каб пісьмо было прыгожым). Праўда, гэта рыска ня дасьць вучню „прастору разгарнуцца на паперы", каб пісаць і ўдоўж і ўпоперак, а пісаць толькі ў адным напрамку, але ад гэтага, здаецца, бяда не вялікая. Рыска гэта ня толькі ня ўціскае вучня, але наадварот—вызваляе ад натугі „кіравацца па краі паперы" і дарэмна траціць на гэта энэргію. Калі вучань навучыцца пісаць добра па лінейках, дык пасьля гэтага ня цяжка будзе, пасьля некаторага практыкаваньня, пачаць пісаць і бяз лінеек.

Мне здаецца, няма сталых падстаў для таго, каб прапанаваць нашай масавай школе выкінуць з свайго ўжытку сшыткі альбо і наогул паперу „ў адну лінейку". Рыскі **„ў дарожку"** (дзьве лінейкі) маюць на мэце вызначыць ня толькі просты напрамак радкоў, але і вызначыць аднолькавую велічыню (па вышыні) літар. Пісьмо ня будзе прыгожым, да і чытаць яго будзе трудна, калі літары будуць

няроўныя: адна большая, другая меншая і г. д. Калі велічыня літар вызначана лінейкамі, дык вучню надта мала прыдзецца траціць энэргіі на тое, каб напісаць роўныя літары. Праўда, тут яму прыдзецца сачыць за тым, каб літары не вылазілі з „даражкі“ ні ўверх ні ўніз. Але гэта можна будзе зрабіць шмат лягчэй, чым напісаць радок аднолькавымі літарамі бяз усякіх лінеек.

Я-б не згадзіўся таксама на ўжываньне ў школе вузкіх „даражак“ (15 лінеек), асабліва ў першыя гады навучаньня. **Вучань, які пачынае вучыцца пісаць, дробным пісьмом „псуе руку“.** На дробным пісьме вучань не набудзе звычкі пісаць простыя і роўналежныя літары і элемэнты іх. Сшыткі **з „косымі лінейкамі“** (ўкраткі) імкнуцца даць вучню і гатовы нахіл літар, і шырыню, і г. д. Такая ўжо сетка, трэба згадзіцца, гвалтуе дзяцячую і наогул чалавечую натуру, як і ўсякая іншая сетка, нават з простакутнымі краткамі. Паколькі ўсякая сетка дае пісьму пэўны нахіл управа альбо пакідае яго простым—тут з сеткай нейкім чынам зьвязана пытаньне аб простым і нахіленым пісьме, альбо лепш сказаць, наадварот. Практыка паказвае, што дзеці лягчэй і хутчэй вывучаюцца пісаць простым почыркам, але мы гэтага пытаньня чапаць ня будзем, а кончым з сеткай. Сетка зьвязвае вучня, гвалтуе яго індывідуальнасьць, сетка не памагае навучыцца выразна пісаць, а перашкаджае. Сетка сапраўды псуе паперу, ад яе трэба адмовіцца. Што-ж належыць да графленьня паперы „ў адну“ альбо „ў дзьве лінейкі“ — дык яго шкоднай для навучаньня выразнаму пісаньню лічыць ня можна. Але трэба прыняць пад увагу і другія ўмовы, з якімі зьвязана выразнае пісаньне, сачыць разам за ўсімі імі ў цягу ўсяго часу прабываньня ў школе.

## II. Аловак—вораг выразнага пісаньня.

Чым лепш пісаць?

У некаторых школах пісаньне алоўкам набыло правы грамадзянства.

Ці добра гэта?

Папершае, пры пісаньні алоўкам вучань бязумоўна псуе свае вочы. Пісаньне тут ня толькі па форме, але і па яскравасьці сьледу нявыразнае. Каб чытаць яго, трэба напружваць вочы, прыгінацца.

Падругое, пры пісаньні алоўкам вучань не навучыцца ўладаць пяром (кіраваць ім) і па-трэцяе, напісанае алаўком ня можа мець доўгага веку. Алоўкавая пісаніна зараз-жа размазваецца заціраецца і гіне.

Мы бачым, што аловак, як прылада для пісаньня ў школе, рэч ня менш шкодная, чым **„косыя лінейкі“**, і, як такую, яго трэба з школы выкінуць, пакінуць-жа толькі, як прыладу для маляваньня.

## III. Чарнавікі трэба пісаць чыста.

—Чаму ты, браце, так неакуратна пішаш? —Гэта „чарнавік“! На чарнавіку можам пісаць, як хочам: брудна, няроўна і г. д. Таксама можам пісаць, калі пішам для сябе. Іншая рэч, калі сшыток трэба падаць настаўніку, альбо яшчэ каму-небудзь.

Такое пераконаньне пануе і сярод вучняў і „нават“ сярод некаторых настаўнікаў.

У вучняў жыве думка, што і „чыстапісаньне“ заведзена дзеля таго, каб чыста пісаць **толькі на спэцыяльна дзеля гэтага зробленых сшытках.**

Пры такім становішчы, калі вучні толькі зусім нязначную частку часу траціць на пісаньне як папала „для сябе, чарнавікі“—яны ніколі не навучацца пісаць выразна.

Калі пісаць выразна—дык заў-

сёды (і для сябе, і для таварышоў, і для настаўніка, і для ўстановы).

Толькі, тады калі звычка пісаць выразна і акуратна будзе падтрымлівацца заўсёды, яна сапраўды стане звычкаю. Гэта не азначае, што ня трэба пісаць чарнавікоў, а адразу начыста. Хай напіша сабе і чарнавік, але акуратненька, чысьценька. Хай зробіць папраўкі, дадасьць, чаго ня хапае, закасуе лішняе, але таксама акуратненька і чысьценька.

### IV. Выразнае пісаньне—агульна-школьная справа.

Тое самае трэба сказаць адносна прац па розных галінах ведаў. Калі пісьмовая праца ня мае беспасрэднага дачыненьня да мовы дык на выразнасьць пісаньня ў ёй неяк малазварочваецца ўвагі. Калі ў аднакамплектавай школе праца будзе пабудована на матэматычных вылічэньнях і разважаньнях, дык настаўнік амаль што ня зьверне ўвагі, на чым праца выпаўнена, чым і як (абы ня было матэматычных памылак). Калі гэта ў сямёхгадовай школе-дык тут справа яшчэ горш. Тут лічыцца, што за выразнасьцю ў пісаньні павінен сачыць выключна выкладчык мовы і літаратуры. Гэта яго абавязак, Пры такіх умовах навучыць выразна пісаць, зразумела, будзе трудна. Справа навучаньня пісаньню—агульна-школьная справа.

### Вывады.

Выразнае пісаньне—надворная якасьць пісьма, але гаварыць аб паляпшэньні гэтае якасьці можна з такім самым правам, як аб паляпшэньні якасьці паліграфічнае вытворчасьці.

Графленьне паперы „ў адну лінейку“ і „ў дзьве лінейкі“ паперы ня псуе, выразнаму пісаньню не перашкаджае, а дапамагае.

Сшыткам „у косыя“ не павінна быць мейсца ў школе.

Карандаш, як прылада для пісаньня ў школе, шкодны.

За выразнасьцю ў пісаньні трэба сачыць заўсёды, ва ўсім і ўсім настаўнікам.

**Пісарчык.**

## Першая мэтадычна-пэдагагічная сходка настаунікау Прыдруйшчыны.

У выкананьне апошняга загаду Міністра Асьветы аб тым, каб настаўніцтва зьбіралася час-ад-часу ў якую-колечы школу райёну і рабіла-бы абразцовыя лекцыі, разгляд іх і гутаркі аб лепшых мэтадах выкладаньня, — настаўнікі Прыдруйшчыны сабраліся ў нядзелю 13 сакавіка на першую пэдагагічна-мэтадычную сходку.

На сходцы быў прысутны кіраўнік Беларускага Аддзелу, які ў гэты час аб‘язжаў беларускія школы Прыдруйшчыны і Пустыншчыны.

Чакалі настаўнікі, што прыедзе на сходку і інспэктар пачатковых школ Дзьвінскага павету, але яго, чамусьці, не было.

Першая сходка, у часе якой адбыліся некалькі абразцовых лекцый, было прызначана ў Індраўскай Дзяржаўнай школе.

Ня можна сказаць, каб гэта першая мэтодычна-пэдагагічная сходка прайшла зусім задавальняюча, але гэта лёгка тлумачіцца тым што пачынаньне для ўсех вучыцялёў з‘яўляецца навінаю што ім трэба яшчэ шукаць лепшае формы, для гэтых вельмі важных сходак, а таксама і тым, што першая сходка была праведзена сіламі саміх вучыцялёў бяз кіраўніцтва інспэктара-інструктора.

Важна тое што вучыцялі Прыдруйшчыны адгукнуліся на пачынаньня і зрабілі першы самастойны крок. Гэтым яны выгодна адмежаваліся ад таго руціннаго настаўніцтва якое з поваду гэтага загаду міністра подняла голасны вой, убачывшы ў гэтым „лішнія“ для сябе „турботы“.

**Індравец.**

## Сход Цэнтральнага Праўленьня Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

У нядзелю 6 сакавіка адбыўся з‘езд Цэнтральнага Праўленьня „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, на якім заслуханы даклады па бегучых справах таварыства і ягоных адзелаў, а таксама прыняты шэраг новых сяброў.

Сход пастанавіў зьвярнуцца да Беларускага Аддзелу з просьбай аб грашовай дапамозе двум прыватным беларускім школам, якія таварыства адчыніла ў бягучым 1926-7 навучальным годзе у вёсцы Шылова, Пасінскае воласьці, Люцынскага павету, і ў месце Рызе (апошняя школа дадатковая, для дарослых).

Шылаўскую школу праўленьне т-ва згодна перадаць Люцынскй павятовай Школьнай Управе, калі яно возьме гэтую школу на утрыманьне павету.

Аддзелам Т-ва Цэнтральнае Праўленьне ўхваліла паслаць напамінаньне, што ў кассу адзелаў могуць быць адлічаемы ня больш 50 % з сяброўскіх штомесячных складак, рэшта штомесячных складак, а таксама аднаразовыя ўступныя узносы—паступаюць у кассу Цэнтральнаго Праўленьня Т-ва.

Тыя сябры, у районе працы якіх німа асобнага аддзелу „Т-ва вучыцялёў“, пасылаць усе свае складкі безпасярэдня ў Цэнтральнае Праўленьне.

Памер узносаў пакінуты да агульнага сходу-кангрэсу т-ва стары г. ё.:

1. уступы аднаразовы ўзнос-1 лат,
2. штомесячны ўзнос па 50 сантымоў, або адразу за год . . . . . . . 6 „
3. у кассу Уселатвійскага вучыцельскага Хаўрусу за год. . . . . . . 1 „

усяго за год кожды сябра т-ва павінен уносіць па 8 латаў.

Для паквітаваньня ўзносаў Цэнтральнае Праўленьне выдрукавала квіткі асобные формы, якія і разсылаюцца па аддзелах. Сяброўскія карткі ухвалена выдаваць толькі за подпісам і пячаткай Цэнтральнага Праўленьня.

Сьпісак сяброў таварыства, а таксама статуты двух яго прыватных школ пастаноўлена апублікаваць у штомесячніку „Беларуская школа ў Латвіі“.

Дзеля павялічэньня грашовых сродкаў Т-ва, ухвалена зрабіць грашовую латарэю на 5,000 латаў, пашырэньне білетаў якой правесьці праз Беларускае настаўніцтва.

Каб спыніць асабістыя непаразуменьня паміж некаторымі сябрамі, якія дазвалялі сабе недапушчальныя учынкі адносна сваіх таварыстваў, ухвалена правесьці як мага хутчэй рэалізацыю Суда Гонару.

Прынцыпы гэтага суда, прапанаваныя гр. К. Езавітавым, Цэнтральнае Праўленьне прыняла за аснову і пастанавіла на чарговым зьездзе сяброў т-ва прапанаваць па зацьверджаныю адпаведны статут.

У зьвязку з агульным ажыўленьнем беларускага нацыянальнага асьветнага жыцьця, паўстала пытаньне аб адчыненьні новых беларускіх школ, аб чым ухвалена зьвярнуцца з захадамі да Беларускага Аддзелу і Міністра Асьветы. Пры гэтым намецілася цьвёрдае імкненьне ў далейшым рэкамэндаваць на пасабы і ўсялякім чынам падтрымліваць толкі тых настаўнікаў, якія увайходзюць у склад сяброў „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ і наагул вядуць грамадзкую працу.

## Сьпіс членау Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

**Сябры-ініцыяторы, падпісаўшыя 20. VIII. 1925 г. статут т-ва.**

1. Езавітаў Канстантын Барысавіч.
2. Пінская Ніна Уладзіміраўна.
3. Дзямідаў Мікола Янавіч.
4. Найдзін Аляксандр Фёдаравіч.
5. Фэльдман Ніна Васільеўна.
6. Дзямідава Вольга Карлаўна.

**Сябры прынятыя у т-ва з I. IX. 1925 г.**

7. Клагіш Люцыя Антонаўна.
8. Радзько Аляксандр Захаравіч.
9. Сахараў Сяргей Пятровіч.
10. Шчорс Ян Антонавіч.
11. Хруцкі Еўстаф Георгіевіч.
12. Вайводзіш Эдуард Людвікавіч.
13. Плыгаўко Грыгор Сямёнавіч.
14. Сіцько Сьцяпан Лаўрэньцьевіч.
15. Красьневіч Станіслаў Адольфавіч
16. Барткевіч Аляксей Міхалавіч.

**Сябры прынятыя ў т-ва з I XII. 1925 г.**

17. Раткін Уладзімір Назаравіч.
18. Фёдараў Ільля Сямёнавіч.
19. Кастылюк Якуб Фёдаравіч.
20. Шкульцін Аляксандр Янавіч.
21. Якубецкая Антаніна Кірылаўна.
22. Якубецкі Андрэй Паўлавіч.
23. Жэрдзі Парфіры Мефодзьдзев.
24. Нікіфароўская Галіна Уладзм.
25. Нікіфароўскі Васіль Уладзімір.
26. Мацієўскі Сямён Данілавіч.
27. Жданко Раіса Іванаўна.
28. Казлоўская Марыя Герасімаўна.
29. Махноўскі Алесь Сьцяпанавіч.
30. Казека Сяргей Канстантынавіч
31. Казека Стэфанія Осіпаўна.
32. Касьпяровіч Марыя Пятроўна.
33. Крэйц Анастасья Георгіеўна.
34. Сальцэвіч Алесь Янавіч.
35. Лазаронак Васіль Язэпавіч.

**Сябры прынятыя ў т-ва з I. I. 1926 г.**

36. Трубіцын Савва Карнілавіч.
37. Казлоўскі Даніла Антонавіч.
38. Сушынская-Якубоўская Гэлена.
39. Мірановіч Вільгельм Тамашав.
40. Восіпаў Грыгор Кузьміч.
41. Дварэцкі Аўгуст Васільлявіч.
42. Салаўёва Антаніна Радзівонаўн.
43. Пашкевіч-Лепінь Гэлена Язэп.
44. Астроўскі Феліцыян Канстант.
45. Багінская Клара Юльеўна.
46. Ванаг Язэп.
47. Клагіш Язэп Антонавіч.
48. Аляксандровіч Канстант. Адам.
59. Талерка Мікалай Нікандравіч.
50. Камаржынскі Язэп Францавіч.
51. Краўчэнка Міхась Грыгоравіч.

**Сябры, прынятыя ў т-ва з I. X. 1926 г.**

52. Клагіш Антон Язэпавіч.
53. Вальтэр Віктар Бэнэдыктавіч.

**Сябры, прынятыя ў т-ва з I. I. 1927 г.**

54. Гайлевіч Язэп Казімаравіч.
55. Ціхаміраў Уладзімер Максім.

**Сябры, прынятыя ў т-ва з I. III. 1927 г.**

56. Зэйгліш Ганна.
57. Юзэфовіч Надзея.

## Па-сяброуску!

Праўленьня Дзьвінскага аддзелу, „т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ просіць нас паведаміць грамадзянства, што на сходзе гэтага праўленьня ад 3 лістапада 1926 г. было разгледжана непаразуменьне паміж настаўнікамі К. Александровічам і А. Якубецкім, у зьвязку са стацьцёй А. Якубецкага ў газэце „Голас Беларуса“ ад 1 га верасеня 1926 году за № 37 (19).

Гр. А. Якубецкі адмовіўся ад маральна—абражаючых гонар К. Александровіча мейсц у карэспандэнцыі, а К. Александровіч, лічучы сябе маральна задаволеным, спыніў паднятую ім супроць А. Якубецкага судовую справу.

## Не па-грамадзку.

Праўленьне Дзьвінскага аддзелу „Т-ва Беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ надаслала нам сьпісак сваіх сябраў, якія да гэтага часу не парупіліся унесьці належачыя з іх сяброўскіх складкі ў Т-ва.

Мы на першы раз устрымаўваемся ад агалошаньня прозьвішчаў неакуратных сяброў гэтага аддзелу, але ў далейшым, пры паўторываньні гэтакіх неграмадзкіх учынкаў, змушаны будземо публікаваць прозьвішчы тых, хто ухіляецца ад спаўненьня сваіх грамадзкіх абавязкаў.

# Статут Шылаускае Беларускае Прыватнае Пачатковае Школы Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

(Статут і школа зацверджаны Министрам Асьветы 3 студзеня 1927 году, аб чым апублікавана ў «Valdības vēstniesis» № 5 ад 8 студзеня 1927 году).

## I. Агульныя палажэньня.

§ 1. Мэта „Шылаўскае беларускае прыватнае аснаўное школы Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ даць магчымасьць дзецям беларускае нацыянальнасьці вучыцца ў сваёй нацыянальнай школе.

§ 2. Мейсца працы школы: Люцынскі павет, Пасінская воласьць, вёска Шылава.

Тэкст пячаткі гэткі: Latvijas baltkrievu skolotāju biedrības Šilovas privata baltkrievu pamatskola“ („Шылаўская беларуская прыватная аснаўная школа Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латві“).

На вывесцы школы будзе тойжа тэкст, што і на пячатцы (глядзі папярэдні абзац).

## II. Сродкі школы.

§ 3. Школа будзе ўтрымоўвацца на сродкі гаспадара школы, а таксама на магчымыя дапамогі Міністэрства Асьветы і самаўрадаў.

Гаспадарскія выдаткі школы, г. ё. памешканьне школы, апал, асьвятленьне, уборка, а таксама і інвэнтар, бяруць на сябе бацькі вучняў, згодна пісьменнае ўмовы. якая знайходзіцца ў „Т-ве беларускіх вучыцялёў у Латвіі“.

## III. Выкладаньне.

§ 4. Мова выкладаньня ў школе будзе беларуская.

## IV. Настаўнікі.

§ 5. Закладаючы школу, вучыцялёў рэкамэндуе „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“, а зацьвярджае Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы, у далейшым у выпадку зьмены настаўнікаў, выбары адбываюцца на агульна-прадугледжаных асновах.

## V. Пэдагагічная і Школьныя Рады.

§ 6. Пэдагагічная Рада будзе зложана і будзе працаваць згодна агульных пастанаўленьняў аб пэдагагічных радах.

Школьная Рада будзе зложана агульна-прынятым парадкам і з удзелам прадстаўніка ад утрымацеля школы з правам голасу.

Школьная Рада будзе выконываць усе абавязкі, якія на яе ўскладаюцца законам 8 сьнежня 1919 году аб прасьветных установах.

## VI. Вучні.

§ 7. У школу будуць прыймацца дзеці, бацькі якіх вызнаюць сябе і сваіх дзяцей належачымі да беларускае нацыянальнасьці.

Пры сканчэньні школы будуць прыймацца пад увагу агульныя дзяржаўныя пастанаўленьні аб аснаўных школах.

## VII. Ліквідацыя школы.

§ 8. У выпадку патрэбы ліквідацыі школы ўсім вучням будзе дадзена магчымасьць скончыць курс навучаньня і школа будзе ліквідавацца паступова, пачынаючы з I клясы, або з падгатоўчае клясы, калі гэткая пры школе будзе, г. ё. у выпадку ліквідацыі вучні ня будуць прыймацца ў падгатоўчую, або I клясу, а з рэштай вучняў заняткі будуць адбывацца да сканчэньня курсу.

Ад імя ўтрымацеля „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“
**Старшыня Т-ва К. Езав!таў.**

**За сэкратара Н. Пінская.**

# Статут Рыскай Беларускай Прыватнай Дадатковай (для дарослых) школы Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

(Статут і школа зацьверджаны Міністрам Асьветы 12 лютага 1927 году, аб чым надрукавана ў «Valdības Vēstniesis» № 37, ад 16. II. 1927 г.)

### I. Агульныя палажэньня.

§ 1. Мэта „Рыскай беларускай прыватнай дадатковай школы Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі" даць магчымасьць дарослым беларусам, якія ня маюць поўнае асьветы аснаўной школы, закончыць яе ў сваёй нацыянальнай школе.

У в а г а: Дадатковая школа будзе мець V-ю і VI клясы.

§ 2. Мейсца працы школы: Рыга, Чырвоная Дзьвіна, Сіманаўская вуліца, дом № 14-16, кватэра № 3.

Тэкст школьнае печаткі гэткі: „Latvijas baltkievu skolotāju biedrība Rīgas privata baltkrievu papildu skola" („Рыская беларуская прыватная дадатковая школа Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі").

Вывеска школы будзе мець тойжа самы тэкст, што і печатка (глядзі папарэдні абзац).

### II. Сродкі школы.

§ 3. Школа будзе ўтрымоўвацца на сродкі гаспадара школы, а таксама на магчымыя дапамогі Міністэрства Асьветы і самаўрадаў.

Гаспадарскія выдаткі школы, г. ё. памешканьне школы, апал, асьвятленьне, уборка, а таксама і інвентар, бярэ на сябе Рыская мястовая управа, дазваляючы школе вясьці заняткі ў другую зьмену ў 2-й Рыскай мястовай белерускай пачатковай школе.

### III. Выкладаньне.

§ 4. Мова выкладаньня ў школе будзе беларуская.

Заняткі ў школе будуць адбывацца згодна пляну гадзін, зацьверджанага для Рыскіх мястовых дадатковых школ, далучаючы да яго яшчэ 3 гадзіны ў тыдзень беларускае мовы.

### IV. Настаўнікі.

§ 5. Закладаючы школу, вучыцялёў рэкамэндуе „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латві", а зацьверджае Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы, у далейшым, у выпадку зьмены настаўнікаў, выбары адзываюцца на агульна-прадугледжаных асновах.

### V. Пэдагагічная Рада.

§ 6. Пэдагагічная Рада будзе зложана агульна-прынятам парадкам і з удзелам прадстаўніка ад утрымацеля школы з правам голасу.

Пэдагагічная Рада спаўняе таксама функцыі Школьнае Рады.

### VI. Вучні.

§ 7. У школу будуць прыймацца дарослыя вучні, якія вызнаюць сваю належнасьць да беларускае нацыянальнасьці.

Пры сканчэньні школы будуць прыймацца пад увагу агульныя дзяржаўныя пастанаўленьня аб дадатковых школах.

### VII. Ліквідацыя школы.

§ 8. У выпадку патрэбы ліквідацыі школы ўсім вучням будзе дадзена магчымасьць скончыць курс навучаньня і школа будзе ліквідавацца паступова, пачынаючы з V-е клясы, г. ё. у выпадку ліквідацыі вучняў ня будуць прыймаць у V кляс, а заняткі будуць адбывацца толькі з VI-ю клясай да сканчэньня курсу.

Ад імя ўтрымацеля „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі"

**Старшыня Т-ва К. Езавітаў.**

**Сэкрэтар М. Дзямідаў.**

## Папулярныя вочаркі па тэорыі каапэрацыі.

# Што такое праудзівы каапэратыу.

Апрадзяленьняў (вызначэньняў) каапэратыву істнуе шмат, некалькі дзясяткаў; аднак да гэтагу часу ў нас яшчэ няма гэткага вызначэньня, якое было-б агульнавызнаным і не выклікала бы спрэчак. Гэты факт яскрава сьведчыць аб сумным становішчы тэорыі каапэрацыі, а разам з тым робіць вялікую шкоду ў практыцы. Ня маючы точна акрэсьленага значаньня словаў: „каапэрацыя“, „каапэратыў“, „каапэратыўны“ — людзі могуць дужа доўга і горача спрачацца пры абгаворах якога-небудзь пытаньня, не прыходзючы ні да якіх striaстаноўчых вынікаў, бо кожны з іх, гутаручы нібыта аб аднэй і тэй жа рэчы, укладае аднак у свае словы іншы, непадобны да другіх, зьмест і сэнс.

Разам з тым, пры адсутнасьці поўнага вызначэньня, да каапэратыўнага руху могуць, гэтак кажучы „прымазацца“ і выступаць пад яго штандарам гэткія грамадзкія элемэнты, якія маюць з ім дужа мала супольнага. За апошні час, калі, пад уплывам надзвычайнага росту кошту тавараў, агульнага разбурэньня эканамічнага жыцьця і страшэннага ўзмацаваньня ўсялякага марадзёрства, грамадзкая думка зьмяніла сваё зімнае адношаньне да каапэрацыі на больш прыхільнае, гэта зьявішча пачало заўважацца асабліва часта.

„Зацьверджаны статут новага каапэратыву, — чытаемо мы, напрыклад, ў „Биржевыхъ Вѣдомостяхъ“ ад 9 верасеня 1916 году,—„Спажывецкага таварыства гаспадароў тракцірнага промыслу, гандляваўшых моцнымі напіткамі ў Петраградзе і яго ваколіцах“.

„Закладчыкі каапэратыву маюць надзею, што адчыненьне яго дасьць магчымасць тракціршчыкам атрымліваць у патрэбным ліку, па патрэбам іх прадпрыемстваў, рожныя прадукты, асабліва цукер“.

„Сярод маскоўскіх фабрыкантаў і заводчыкаў,—паведамляе са свайго боку газэта „День“ у № 294 за 1916 год, — зьявілася думка залажыць электрычны каапэратыў. На чале апошняга стаіць М. І. Гучкоў. Каапэратыў будзе абслугоўваць буйнейшыя фабрыкі і заводы Масквы“ і гэтак далей.

Чалавек, хоць крыху знаёмы з прынцыпамі каапэрацыі, адразу заўважыць, што пералічаныя „каапэратывы“—зусім не каапэратывы, а звычайныя капіталістычна-буржуазныя аб'еднаньні, схаваўшыя сваіх акцыянэраў пад шыльдам каапэрацыі.

Адсюль відаць, якое важнае значаньне мае гэткае, здавалася-бы, фармальнае і далёкае ад жыцьця пытаньне, як выпрацоўка точных вызначэньняў.

### Што-ж такое каапэратыў?

Найбольш пашыраным можна лічынь тое вызначэньне, якое прынята нямецкім каапэратыўным законам 1889 году; згодна з ім, каапэратыў ёсьць таварыства з неабмежаваным лікам членаў, маючае мэтай дапамагаць промыслу ці гаспадарцы сваіх членаў шляхам агульнага прадпрыемства.

Тутака прыняты пад увагу тры адзнакі каапэратыва: 1) неабмежаваны лік членаў, 2) дапамога промыслу ці гаспадарцы сваіх членаў і 3) агульнае прадпрыемства ці супольнае вядзеньне справы.

Разглядзім падрабязней гэтыя адзнакі.

Адсутнасьць абмяжаваньня ліку

членаў робіць першую адзнаку каапэратыва як ад гандлёвых таварыстваў, лік членаў якіх абмяжованы ўмовай, гэтак і ад акцыянэрных таварыстваў, дзе абмежаваньне вынікае з самага характару гэтае арганізацыі і апрадзяляецца лікам выпушчаных акцый.

Другая важная адзнака каапэратыва ў тым, што мэтай яго зьяўляецца дапамога гаспадарцы ці промыслу сваіх членаў. Гэтым каапэратыў адзначаецца як ад таварыстваў, маючых не гаспадарчыя, а ідэяльныя мэты (напрыклад, рожных прасьветных, навуковых, рэлігійных і т. п. таварыстваў), гэтак і ад тых арганізацыяў, што ставяць сабе мэтай дапамагаць гаспадарцы ці промыслу не сваіх членаў, а іншых асобаў.

Нарэшце, трэцяй адзнакай каапэратыву ёсьць тая, што пастаўленыя ім гаспадарчыя мэты правадзюцца шляхам агульнага прадпрыемства ці супольнага вядзяньня справы.

Гэтых трох адзнак у большасьці выпадкаў бывае даволі, каб убачыць, ці маемо справу з каапэратывам, ці не.

Аднак, дужа вялікім заганам нямецкага заканадаўчага апрадзяленьня зьяўляецца тое, што ня ўсе віды каапэрацыі пад яго падыходзюць.

Гэтак, напрыклад, працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады), заложаныя для гандлю працай сваіх членаў, ніякага агульнага вызначэньня ня маюць і, знача, з пункту гледжаньня нямецкага закону, а таксама большасьці сучасных тэарэтыкаў, якія бачуць у каапэратыве перш за ўсё **прадпрыемства**, пад вызначэньне каапэратыву не падыходзюць. А між тым каапэратыў ёсьць перш за ўсё **хаўрус асобаў**, а не прадпрыемства. Яны могуць, і запраўды большасьць з іх арганізуе для сваіх мэтаў рожнага роду прадпрыемствы, але і тыя, якія гэтага ня робюць—не пазбаўляюцца ўсё-ж-ткі права на назву каапэратыву, калі адпавядаюць рэшце варункаў. Таму больш адпавядаючым трэба лічыць тое апрадзяленьне (вызначэньне), якое прадугледжана ў праэкце расейскага „Палажэньня аб каапэратыўных таварыствах у Маскве, Петраградзе і Кіеве, прынятым Дзяржаўнай Думай і зацьверджаным Часовым Урадам 20 сакавіка 1917 году.

Згодна гэтага палажэньня, каапэратыўным таварыствам вызнаецца таварыства з пераменным складам і капіталам, якое, працуючы пад асобнай фірмай, мае мэтай дапамагаць матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту сваіх членаў шляхам супольнае арганізацыі рожнага роду прадпрыемстваў ці працы сваіх членаў.

Гэта вызначэньне здаецца мне больш адпавядаючым, бо яно настолькі шырокае, што пад яго могуць ужо падыйсьці ўсе віды каапэратыўных арганізацыяў. Запраўды, калі тутака адмечана, што каапэратыўнае таварыства мае мэтай дапамагаць матар'яльнаму і духоўнаму дабрабыту ня толькі спосабам арганізацыі рожных гаспадарчых прадпрыемстаў, але і шляхам арганізацыі працы сваіх членаў, дык знача сюды могуць быць аднесены ня толькі спажывецкія таварыствы, крэдытныя, вытворчыя і іншыя хаўрусы, але і так званыя працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады).

Аднак, і ў гэтага вызначэньні ёсьць свой заган — у ім няма ніякага ўспаміну аб тым вызваленчым, анцікапіталістычным руху, які мы ў папярэднім очэрку вызналі характэрнай адзнакай каапэратыўнага руху. Шмат аўтараў угледжываюць гэты анцікапіталістычны дух у спосабе падзелу даходаў (зыску). „Каапэратыў, — кажа вядомы францускі прафэсар Шарль

Жыд, — гэта асоцыяцыя для зьніштажэньня зыску". Пашыраючы гэту думку далей, В. Ф. Пекарскі прыходзе да гэткага вызначэньня: каапэратыў ёсьць эканамічны хаўрус, які падзяляе чысты зыск свайго прадпрыемства прапарцыянальна працы ў вырабе, забору—гандлёвым прадпрыемстве, ці выкарыстанаму крэдыту ў крэдытнай справе, і не выплачывае членам ні ў якім выглядзе прадпрынімацельскага зыску.

Адпак, трэба мець на ўвазе, што спосабы падзелу зыску дужа разнародны і залежаць як ад ступені развіцьця, на якой стаіць даны каапэратыў, гэтак і ад поглядаў, пануючых сярод яго членаў. Затым аб зыску і спосабах яго падзелу можна гутарыць толькі тамака, дзе ёсьць прадпрыемства, між тым мы ўжо ведаем, што ёсьць гэткія каапэратывы, якія не зьяўляюцца прадпрыемствамі — гэтак, напрыклад, працоўныя арцелі (сяброўствы, грамады) і падобныя ім арганізацыі. Знача, апрадзяленьне Пекарскага не падойдзе да іх і павінна быць вызнана дужа вузкім. Гэтай адзнацы, якая паказуе на анцікапіталістычны характар каапэратыва, павінен быць нададзены шырокі і агульны выгляд. На моцы вышэй выкладзеных развагаў мы прапануемо, як найбольш адпаведнае, гэткае вызначэньне: **каапэратыў ёсьць дабравольнае аб'еднаньне неабмежаванага ліку асобаў, якое мае мэтай супольнымі высілкамі змагацца з эксплуатацыяй капіталу і палепшыць становішча сваіх членаў у працэсе вырабу, абмену ці падзелу гаспадарчае карысьці ці зыску, г. ё. як вытворцаў, спажыўцоў ці гандляроў працоўное сілы.**

**К. Пажытноў.**

(Працяг будзе).

# З жыцьця беларускіх школ у Латвіі.

## Вучні ужо ідуць у пастухі.

У Латгаліі ў гэтым годзе недарод. Шмат вёсак, асабліва ў нашых беларускіх валасьцёх, сідзяць ужо з коляд бяз хлеба на аднэй бульбе.

Дзеці ня могуць зімой хадзіць у школу, бо німа чаго апрануць і абуць, а як пацяплела, дык сьпяшаюцца бедныя бацькі аддаць дзяцей у пастухі, каб заможныя хутаране з Куляндзіі ды Ліфляндзіі хоць пракармілі-б згаладаўшых дзяцей.

Доля ты наша горкая, і самі няпісьменныя і дзяцей вучыць ня маемо магчымасьці!

Ці не павінны прыйсьці нам, нарэшце, на дапамогу і грамадзтва і урад і павет?

Ад воласьці сваёй чакаць дапамогі мы ня можам: бедная воласьць, а патрэб рожных многа.

**Бацька з Прыдруйшчыны.**

## Зьмены ў Рыскіх беларускіх пачатковых школах.

У зьвязку з пераходам кіраўніка 2-й Рыскай беларускай 6-ці клясовай пачатковай школы на Чырвонай Дзьвіне, гр. С. Красьневіча, на пасаду дзелавода пры Беларускім Аддзеле, у памянёнай школе на кіраўніка высунута кандыдатура вучыцеля М. Дзямідава.

Часова да аканчальных выбараў, якія адбудуцца 22-красавіка, кіруе школай Г. Плыгаўка, які, аднак, на далейшае кіраваньне гэтай школай не прэтэндуе і просьбы аб гэтым у Школьнаю Раду не падае, бо абраны кіраўніком Прыватнае Беларускае Дадатковае (для дарослых) Школы, якая утрымываецца ў Рызе Т-вам беларускіх вучыцялёў.

## Рамесьленныя клясы пры 1-й Беларускай Рыскай школе.

Па захадам старшыні Школьнае Рады 1-й Рыскай беларускай мястовай 6-ці клясовай пачатковай школы на Маскоўскім Фарштаце, гр Станевіча перад Школьнай Управай г. Рыгі, апошняя згадзілася даць сродкі на тое, каб пры памянёнай школе з восені наступнага навучальнага году адчыніць рамесьленныя клясы.

Пачынаньне гэтае мае вельмі вялікае значаньне для нашых вучняў, большасьць якіх паходзе з ліку дзяцей беларускіх працоўных і па аканчаньню школы змушана ісьці працаваць з працы сваіх рук. Дык дзе-якая падрыхтоўка і знаёмства іх з рамесьніцтвам вельмі важна для ўсяе іхняе будучыні.

Добра-б было яшчэ, каб кіраўнік школы і Школьная Рада парупіліся аб тым, каб здабыць для нашай школы больш абшырнейшае памешканьне. Трэба, каб наша школа вучыла і зьбірала каля сябе ня толькі нашых дзяцей, але і бацькоў. На нашым Маскоўскім Фарштаце ідзе беспрасыпнае п'янства, карцёж, хуліганства. Каб у школе можна было-б сабрацца ў нядзелю, пагутарыць, паслухаць, пасідзець у сьветлым памешканьні з карысьцю для сваёй душы, дык вельмі былі-б нашым настаўнікам удзячны.

**Адзін з бацькоў.**

## Вясковыя школы ня маюць кавалачка зямлі.

Згодна Латвійскіх законаў кождая вясковая школа павінна мець кавалачак зямлі. Вызначана, што школе могуць даваць да 6 гэктараў і болей.

Аднак, у нашых беларускіх школах зямлі няма.

Хацеў бы часам які-колечы вучыцель зрабіць пры школе паказальную гаспадарку, пасеку, гарод, сад, дык няма дзе.

Шмат хто з вучыцялёў хацеў бы лета правесьці сярод сялян сваёй вёскі, каб быць ім карысным сваёй ведай і бліжэй падыйсьці да сялянства, але нямя зямлі, няма магчымасьці зрабіць паказальнай гаспадаркі, дык і раз'язджаюцца хто-куды.

Ці ня можна-б было нашай Радзе Аддзелу парушыць гэтую справу, каб і нашы школы не былі абдзеленыя?

**Вучыцель.**

## Вучні ня могуць купляць ні сшыткоу ні кніжок.

Прост гора якая галота ў нашай школе, ды і наагул у Пасіншчыне!—Сяляне незаможныя. Зямлі мала. У гэтым годзе яшчэ, як на тое ліха, няўрод. Вучні ня то, што кніжку, але сшыток ды аловак купіць ня могуць.

Шмат каго пагражаюць прадаюць за нядоімку.

Атрымалі вось гэтымі днямі крыху кніжок ад Беларускага Аддзелу, колькі ўцехі было і апісаць ня можна.

А з іншымі школьнымі патрэбамі вельмі цяжка і кепска. — Купіш сама грыфялёў, алоўкаў, сшыткоў за свае ўласныя грошы, раздаш — ідуць заняткі, а як няма ў самой грошы, дык хоць ты пальцам пішы.

Хоць-бы скуль-нябудзь, якую-нябудзь, хаця-ж-бы самую маленечкую дапамогу магчыма было атрымаць на бяднейшых вучняў.

А здольныя ёсьць дзеці, і гэтак хочуць вучыцца. Дачуліся, што з некаторых вёсак паехалі вучыцца некалькі чалавек аж у Дзьвінскую гімназію, дык плачуць: „Ніколі нам не пабачыць гімназіі, калі мы ў сваёй школе ня можамо вучыцца, бо сшытка няма за што купіць!“

**Настаўніца.**

РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ **К. ЕЗАВІТАЎ.**

**Вучыцялі беларускіх школ, дзеля абароны сваіх прафэсыянальных і нацыянальна-культурных інтарэсаў, усе бяз вынятку павінны быць дзейнымі сябрамі „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“.**

**Усе грамадзяне-беларусы, якія цікавюцца лёсам сваёй роднай беларускай школы у Латвіі, павінны падтрымоуваць працу „Т-ва беларускіх вучыцялёў“ і запісвацца у члены яго.**

Тыпаграфія Г. Іге, Рыга, Гертрудзінская вул., № 80.